Э. Б.

# ШТО ТАКОЯ ПРОСТАЯ І ШТО ТАКОЯ МУДРЭЙШАЯ ГАВОРКА.



Вільня — 1920 г.






# Што такоя простая і што такоя мудрэйшая гаворка.

Часамі кажуць: як ён пекна гаворыць — айай!—так як з кніжкі чытаіць!

З гэткага сказу відаць, што кніжкі мусюць быць напісаны пекнай гаворкай.

А яно так і ёсьць і натта зразумела — чаму. Бо тоя, што у кніжкі падаецца, пішыцца паволі: йосьць часу надумацца — як складней вылажыць славамі свае ці чые думкі, — якія падабнейшыя словы падабраць да спісаньня якой небудзь думкі,—як гэтыя словы падпарадкаваць адно з другім,—каб чытаючы вышаўбы склад і лад, адным словам—каб выказалася гаворка як ёсьць пекная!

Так паволі (так як пішучы) то і сказаць надумаўшыся пекна можна. Ну, а абыяк гаворучы адзін з адным, самі сабой сыйшоўшыся, — ні стараючыся каб лепі, пякней каб выгаварыцца, алі— як на язык пасьпела так і зьляцела,— так гукаючы пекна выхадзіць ня будзіць. А яшчэ горы няпекна выходзіць гутарка у такіх людзей, што і ні дбаюць каб як гладзей, каб пякней сказаць, ды і ні разумеюцца нават — якто лепі, якто пякней

налажыцца гаварыць. У гэткіх людзей гаворка так пекная—ні раўнуючы—як начыньня спад тапара.

Простая тады гаворка, калі людзі або мала або сусім ні задумляюцца аб тым—як складней, як пякней, як лепі высказацца, выгаварыцца.

Простая тады гаворка, калі людзі ужываюць слоў і зваротаў такіх, што ні пасуюцца да рэчы. Ось хто пра неба гукаючы возьміць ды аж так скажыць: на Небя як у карчме, або як у лазьні: усе роўныя. Такоя параўнаньне Неба да карчмы або да лазьні—гэта будзіць брыдкая параунаньне, нідапасаваная да паважнай рэчы якім ёсьць Неба; гэнакая гаворка—як спад тапара начыньня—чыста простая гаворка. Простая гэта гаворка, бо словы нідабраныя да рэчы.

Або так хто скажыць: узяў ды залез гэта я піражаргаўшы лаву ды за стол, выцягнуў я гэта з латушкі курчанё, разтрыбушыў гэта я яго, узяў ды уплёў я сабе яго доўга ня думаўшы...

Гэткая гаворка будзіць простая, бо бяз патрэбы гаворыцца раз колькі адно і тоя: я, гэта, яго, узяўды... Гэткая гаворка простая будзіць і праз тоя, што як спад тапара словы і звароты—ня прыгожыя, ня дэлікатныя: залез піражаргаўшы лаву за стол..., выцягнуў з латушкі курчанё..., разтрыбушыў..., узяу ды уплёў...

Простая будзіць і тады гаворка, калі дарослыя людзі да дзяцінных слоў прывучаюцца; замест кароўка,—скажуць: мукаука.

Простая будзіць і тады гаворка таго, хто ніякай мовы добра ня ўмеіць і блутаіць словы аднэй якой мовы з другой якой мовай; гэткі чалавек часта-густа найпрасьцей выгаварываіцца, найпрасьцейшая яго гаворка.

І так—піралічыць шмат што можна было-б, выказываючы—што такоя простая гаворка.

А значыцца, простая гаворка гэта тая, калі хто гукаіць ні знаючыся на тым, або ня пільнуючыся таго,—як каб складней, каб пякней, каб гладзей, каб мудрэй, каб добра — што называіцца добра выгаварыцца.

А лепшая гаворка—гэта тая, усё роўна якой мовы славамі гукаіцца, алі калі словы датасаваны да асобы, да рэчы, да часу, да мейсца: адным словам — добрая, мудрэйшая, пякнейшая тая ёсьць гаворка—калі вядзецца яна чыстымі славамі аднэй якой мовы, а ня мішанінай якой,—калі да паважнейшай гаворкі датасовываіцца тон шчыры і прыгожы, дэлікатны, а словы дабіраюцца да тону, — і склад слоў у мысьлі і склад мысьлі у гутарцы калі лад маюць; а значыцца—калі словы спрытныя, падборныя, калі гутарка складная, калі мысьлі да канца мысьлі ладзюцца,—ось тады гаворка добрая, пекная, ды ня простая,—а мудрая, ці — якто кажуць—кніжная, літэрацкая.

На тоя ёсьць і навука, каб знацца на такой добрай гаворца, на літэрацкай.

На тоя каб спрытна і складна гукаць ёсьць навука—рыторыкай завецца.

На тоя каб спрытна і складна пісаць ёсьць навука—граматыкай завецца.

На тоя (каб гукаючы ці пішучы) словы і мысьлі гладка каб складаліся ёсьць навука—стылістыкай завецца.

А на тоя (каб гукаючы ці пішучы) каб быў лад у думках, у мысьлях,—на тоя ёсьць навука — лёгікай завецца.

Такім парадкам, хто ні знаіцца з граматай, таму трудна знацца з добрай, ня с простай толь-

кі, а з лепшай, з мудрэйшай гаворкай. І мы гэта усе самі добра ведаць можым, бо пэўнашто маім між сваімі знаёмымі людзей вучоных і нявучоных, і пэўна кожны з нас ведаіць — што за разніца у гаворца вучоных ад нявучоных.

А людзі ёсьць усюды усялякія: і у нас і у людзей. Дзіля пракунаньня зьвернім увагу на суседау нашых—на расейцау і на палякоу. Есьць і у іх бедныя—ды і шмат такіх, што за навукай або сусім не, або мала гналіся,—ёсьць і у іх цёмныя людзі, што з кніжкамі сусім ні знаюцца. Ну дык ёсьць і у іх, у рускіх і у палякоў, прсстая гаворка, бо бедныя, цёмныя людзі — бяз навукі — гладкай, лепшай, мудрэйшай гаворкі ні знаюць.

Ніздарма значыцца ёсьць, што кажуць: „Рускій літературный язык“, або „Польскі ензык літэрацкі“. Гэта значыць, што у расейцаў і у палякоў ёсьць гаворкі і літэрацкія і нялітэрацкія (Русскій народный язык“ у расейцау, і у палякоў — „гвара людова“, а па нашаму кажучы дык гэта будзіць— „простая гаворка“).

Адно, што усягды добра помніць трэба, гэта тоя, што простая гаворка розніцца ад мудрэйшай (ад літэрацкай, ад кніжнай) — розніцца падборам і складам слоў, складам і ладам мысьлі; а значыцца—простая гаворка ад лепшай, ад кніжнай розніцца с п о с а б а м гаварыць, а ня тым — х т о гаворыць: мужык ці пан, багаты ці бедны, — і ня тым — якой мовай гаворыцца: расейскай ці польскай ці беларускай.

Значыцца, ніякога німаш дзіва, што у вусіх людзей няроўна пекна, няроўна гладка, няроўна добра гукаюць людзі: ёсьць што мудрэй гукаюць, ёсьць што прасьцей гукаюць.

А значыцца,—ня дзіўно, што і у нас у Бела-

русоў ёсьць простая гаворка. Дзіўно толькі ось што, што дагэтуль — да нідаўна ні завадзілася у нас мудрэйшая, літэрацкая, значыцца кніжная беларуская гаворка. Тож ведама, што ні ад вякоў кніжная гаворка і у людзей, а ад таго часу як знайшліся людзі, што узяліся укладаць і выдаваць кнігі, газэты і шмат друкаванага слова. Ось скуль пачаліся у людзей мудрэйшыя гаворкі — ня змышлёныя якія, а з жывой мовы, — с простай гаворкі выгладзілася, вылажылася лепшая, кніжная. літэрацкая.

Значыцца—усякая людзкая мова можыць быць добрай, трэба толькі умеючы із ей абхадзіцца. Трэба да ўсякай гутаркі дабіраць найпадабнейшыя да рэчы словы, трэба іх умеючы упарадкаваць да ладу, трэба іх умеючы с сэнсам ужываць і тады усякая людзкая мова станіцца добрай і прыдатнай да усякай мудрай і пекнай гутаркі.

Усякі вучоны чалавек з гэтым зусім згодзіцца, бо усякаму з вучоных ведама, што таксама а нійначы у людзей у іншых сталося.

Пачатак ведама усягды найтрудней даецца. Алі трэба толькі з верай на удачу за дзела брацца—і удача нядзе дзеніцца—паддасца!

І трэба ні баяцца сваяччыны с простым народам, трэба ня стыдацца простага беларускага народу яго беларускай мовы,—трэба ня толькі гукаць па беларуску з народам, алі трэба яму і чытаньня даць па беларуску пісанага.

Кажуць так: калі ня можна чалавека давясьці да школы, дык трэба школу падвязьці к чалавеку. Гэтай рацыі трэба трымацца сьвядомым Беларусам.

Ня спосаб каб агром людзей, цэлы які народ, як наш Беларускі, многамілiённы,—ня спосаб адучыць яго ад свайго стара даўнага беларускага

гоману, — ня спосаб міліёны людзей адвярнуць ад вякоў жывучага гоману і навярнуць іх да якога ня роднага, ня прыроднага гоману.

Алі спосаб ёсьць намудрыць Вялікі Беларускі Народ ад простай гаворкі да гладзейшай, да пякнейшай, да мудрэйшай, да кніжнай, да беларускай літэрацкай.

Алі спосаб ёсьць гэну работу для міліёнаў людзей зрабіць шматком сьвятлейшых Беларусоў, іх маладымі сіламі, іх шчырай і вялікай ахотай да гэтага вялікага і нісьмяротнага дзела.

Пажывём — дачыкаімся.

1912 г.
Вільня

